 

# Свет вечнай цёмнасці



*Віктар Янчук — кіраўнік Аб'еднання невідомых у Беластоку піша ліст алфавітам Брайля.*

Чалавек у цёмнасці заўсёды нейк няёмка сябе адчувае. Святло, яснасць сонечнага дня, прыносяць радасць, абуджаюць жыццё.

Але ёсць-жа людзі, якія ніколі не бачаць і не ўбачаць яснасці дня і святла. Гэта — невідомыя.



*Казімір Герват. які ў часе вайны страціў узрок. У каапeратыве навучыўся прафесіі.*

Каб глыбей адчуць трагедыю гэтых людзей — паспрабуйце на хвіліну засланіць сабе вочы і ўявіць, што так павінны вы пражыць цэлае жыццё. Мы, людзі, якія бачым, можа нават не зразумеем калецтва, якім з'яўляецца слепата. Па вуліцы Крашэўскага ў Беластоку стаіць невялікі, шэры мураваны будынак. Шыльда гаворыць аб тым, што тут знаходзіцца Аб'еднанне невідомых і каапeратыў невідомых. Уваходжу ў пакой Аб'еднання невідомых. З-за стала ўстае на прывітанне сярэдняга ўзросту мужчына — гэта кіраўнік Аб'еднання невідомых — Віктар Янчук. Узіраюся яму ў твар, ён нічога не бачыць.

Янчук даўно прымірыўся са сваім калецтвам, прызвычаіўся да цёмнасці і ўжо колькі год працуе разам з такімі як сам, дапамагае знайсці ім дарогу ў Аб'еднанне, у каапeратыў, каб вырваць іх з апатычнасці і абезахвочанасці да жыцця.

Размаўляю з Янчукам аб невідомых. Аказваецца, што ў Польшчы іх больш чым 14 тысяч (860 у Беластоцкім ваяводстве), што большасць з іх з'яўляецца ахвярамі вайны.

У выніку старанняў некаторых невідомых, асабліва Страінскага, Сакалоўскага і іншых у 1952 г. у Беластоку паўстае працоўны каапeратыў невідомых.

Як гэта, невідомыя і праца? нешта неімаверна... Вось іменна. Тое, што я ўбачыў у каапeратыве і мне паказалася неімаверным — вачам не верыў, убачыўшы ўсё што было зроблена невідомымі.

Сарганізаваць каапeратыў не было лёгка. Плёткі гаварылі, што ў каапeратыве ўколамі на смерць заколюць, навошта-ж каму сляпыя здаліся і г. д. Таму невідомыя пачаткова баяліся каапeратыва. Вядома, як у ім ёсць — не бачылі. Але гэта было даўно. Сёння ў каапeратыве больш ста невідомых. Маюць добра абсталяваныя майстэрні, інтэрнат, сталовую, бібліятэку са спецыяльнымі кніжкамі. Хопіць сказаць, што гэтыя людзі даюць на 700 тыс. зл. прадуктаў вытворчасці ў месяц.

Янчук вядзе мяне ў майстэрню.

Металааддзел. Тут вырабляюцца зашчапкі да бутэлек на піва і лімонад, драцяныя загародныя сеткі. Перш чым зрабіць здымак я доўга ўзіраўся як спрытна бегаюць іх рукі — яны заступаюць ім вочы.

Пытаю некалькіх асоб, ці добра ім у каапeратыве.

— Каапeратыў — гаворыць Казімір Герват, — натхніў мяне жыццём, тут я навучыўся прафесіі...

Ганна Федарук у каапeратыве працуе 5 год. Любіць сваю працу і людзей, якія дазволілі ёй вырвацца з апатыі.

Гонарам майстэрні апрацоўкі метала, і наогул цэлай майстэрні з'яўляюцца Янка Канецка і Мікола Кацюра. Абодва малады. У сучасны момант Кацюра заканчвае 11-годку — атрымае атэстат сталасці. Янка Канецка праходзіць 8 клас. У вольны ад працы час яны вучацца.

Загародная сетка вырабляецца на машыне. Усе невідомыя — ці гэта Ян Лютынскі, ці Зігфрыд Галіцкі, ці іншыя, адно і тое-ж паўтараюць у сваіх апавяданнях: — «Вайна забрала нам вочы, каапeратыў вярнуў жыццё».

Янчук вядзе мяне далей у аддзел, дзе вырабляюцца шчоткі, пэндзлікі да брыцця. Тут пазнаю двое незвычайных людзей: Яніну Грабоўскую — невідомую з дзіцячых гадоў і Язэпа Іванюка. Гэта перадавыя людзі, узнагароджаныя крыжамі заслугі за прафесіянальную і грамадска-культурную працу. Я. Грабоўская вучыць іншых невідомых пісаць і чытаць спецыяльным алфавітам Брайля. Іванюк навучыўся іграць на скрыпцы. Праз доўгі час расказваюць мне аб сваёй працы, зацікаўленнях. Расказваць аб тым свеце, якога ўжо ніколі не ўбачаць. Хацелі-б хоць раз паглядзець на кветкі, на лес, убачыць усход і заход сонца. Не магу размаўляць аб гэтым. Нешта сціскае за горла... Іду далей.

Трыкатажны аддзел — невідомыя робяць на машынах свіцеры, дзіцячыя рэйтузы і іншыя рэчы. Праходжу яшчэ па канатным аддзеле і вяртаемся з Янчукам у яго пакой. Янчук яшчэ многа расказвае мне аб каапeратыве, аб тым, як невідомыя навучаюцца прафесіі, што іх зарплата ўтрымоўваецца ў межах ад 500 — 1.500 зл. у месяц, і аб многіх іншых цікавых справах.

У пакоі Янчука стаяць вялізныя шафы з кніжкамі. Дастаю «Далёкія гады» — Паўстоўскага, разгортваю старонкі — кніжка напісана шрыфтам Брайля[1]). У рагах кніжак выпуклыя кропкі, якія заступаюць літары. Ізноў рукі заступаюць узрок. Невідомыя пальцамі дакранаюцца да выпуклых кропак, такім чынам пазнаюць літары і чытаюць. Чалавек, які бачыць не адчуе ў пальцах рук таго, што невідомы. Усяму навучае невідомых Гражына Внукоўская, яна ўсім сэрцам і душою аддаецца працы, каб толькі навучыць гэтых людзей пісаць і чытаць алфавітам Брайля. Пішуць невідомыя на спецыяльнай паперы, у спецыяльна дапасаваных клетках і не алавіком ці абсадкай, а проста прыладам ў выглядзе шыла. Пракалатыя кропкі складаюць словы, сказы і цэлыя тэксты.

Паглядзеў я таксама музыкальныя інструменты, на якіх невідомыя вучацца іграць, гадзіннікі са спецыяльным цыферблатам.

Надоўга захаваецца мне ў памяці сустрэча і размовы з невідомымі, прычыны іх калецтва: «разабраў гранату», «знайшоў міну», «кінуў снарад у вогнішча», «я аслёп на фронце» і гд. і гд.



*Мы вельмі здаволены тым, што можам рэдактару «Нівы» расказаць аб жыцці і працы невідомых.*

Чатырнаццаць год мінула ад канца вайны, але ахвяры з асаблівым болем будуць доўга ўспамінаць яе. З дзіўным пачуццём развітваўся я з невідомымі, якім Аб'еднанне і каапeратыў хоць часткова вярнулі радасць да жыцця. За мною, у шэрым будынку застаўся свет вечнай цемнаты, на вуліцы красавала вясна з усімі сваімі жывымі колерамі.

Тэкст і здымкі
А. АМІЛЬЯНОВІЧ

[1]) Брайль жыў у гадах 1809 — 52 у Парыжы. З самых дзіцячых гадоў быў невідомым. Як настаўнік невідомых дзяцей склаў спецыяльны алфавіт для чытання і пісання невідомых, які ўспрыняўся ва ўсім свеце.



*Яніна Грабоўская невідомая з дзіцячых гадоў. Язэп Іванюк — ахвяра вайны, страціў узрок у 1944 г. Абое робяць шчоткі.*

## Ты ўжо забыла

Ты забыла як ранкі і месячны ночы
Мы з табой праводзілі на лаўцы пад вязам,
Як ад спрэчак іскрыліся нашыя вочы,
Як прыемна і радасна была нам разам.
Мы цікавіліся там: тэатральнаю штукай,
Асягненнямі тэхнікі, фільмам і модай,
Палітычнымі дзеямі, сціслай навукай,
Фармалізмам у музыцы, спортам, пагодай.
А паэзіяй ты там найбольш захаплялась,
Успамінала Міцкевіча, Пушкіна, Гётэ
І хваліла Байрона. А Янка Купала
Быў любімым тваім беларускім паэтам.
Беларуская кніжка — сябра неразлучны
На каленах тваіх там заўсёды ляжала,
І раскрыўшы яе ты мне голасам гучным
Ці паэмы, ці вершы з уздымам чытала.
Ты цвярдзіла тады, што ты вырасла з люду
І што любіш просты народ беларускі,
Што хацела-бы ты дачакаць каб усюды
Ужо стаў жыць ён багата, культурна, па-людскі.
Ты чакала тады ў неўтамімым паспеху
Як дастанеш у рукі дыплом педагога
І паедзеш вучыць пад сялянскую стрэху,
Дзесь у вёсцы якойсь невялікай, убогай.
Час прыйшоў — раздзяліліся нашы дарогі:
Я паехаў вучыцца ў другую краіну,
Ты дастала на месцы дыплом педагога.
І пазней па табе след надоўга загінуў.
А цяпер я гляджу, ты зрабіла кар'еру,
На настаўніцку ніву рукою махнула,
Пазнаёмілась ты з пажылым афіцэрам
І ў касцёл пад вянец з ім хутчэй павярнулась.
Ты жывеш з ім цяпер у сярэднім дастатку,
Ты не едзеш штораніца да працы трамваем,
Не, ты дома глядзіш чыстаты і парадку,
І гатовіш абед і пасуду змываеш.
Ты паспела ад старых сяброў адказацца,
Як табе муж прадставіў прыяцеляў новых,
А прад імі ўжо сорамна нават прызнацца,
Што любіла калісь беларускую мову.
Ты ад кніжак адвыкла. Чытаць перастала
Ты не толькі Міцкевіча, Пушкіна, Гётэ
Ці Шэкспіра, Байрона, ці Янку Купалу,
Ты амаль раз на месяц чытаеш газету.
А ў нядзелю ці свята шчаслівa, вясёла,
Апрануўшыся ў футра ці ў нову сукенку,
Ты любіш пайсці пасядзець да касцёла,
Паказацца мужчынам, жанчынам, паненкам.
І ад часу да часу паехаць у госці,
Што-б там выпіць віна і пагутарыць крыху
Аб умовах жыцця, аб грахах маладосці.
І дамоў а паўночы вярнуцца паціху.
Ты забыла ўжо ночы і цёплыя ранкі
Як сядзела са мною на лаўцы пад вязам.
Ты зрабілась забітай тыповай мяшчанкай
І ніхто не шарохне аспалы твой розум.
Не заздрошчу табе і заздросціць не буду,
Што ты ходзіш штодзень да ларка па закупы,
І ў чарзе пастаіш, пазмываеш пасуду,
І гатовіш для мужа катлеты ці зупы.
Замятай сабе смецце з дубовых паркетаў.
І штотыдзень выветрывай мужа пасцелі,
А што год пасыпай нафталінам на лета
І адзенне і футра, што-б молі не з'елі.
Штонядзелю хадзі ты сабе да касцёла,
Спатыкай там знаёмых, выслухівай плёткі,
А што там на Падляшы ёсць вёскі без школы,
Не тужы ты над тым — дні такія кароткі!
А як хмары павіснуць над вашай «сялянкай».
Бо муж з кожным годам заметна старэе,
Ты так лёгка як мужа захопіш каханка —
Як не душу, то цела мо' хтосьці прыгрэе...
Не заздрошчу я гэтай ідыліі ціхай.
О, яна ўжо мяне не ўзрушае німала!
Ты даўно мне з сваёй непрыступнаю пыхай
Для душы і для сэрца чужою засталась.
І калі мы няжданна сустрэнемся разам,
І ўзгляну я табе прызадумаўшы ў вочы,
Тады знай, што я ўспомніў лаўку пад вязам,
Дзе калісь праводзілі мы ранкі і ночы.

Д. Ш.



 

 

# З жыцця вёскі Рогаўка

У адлегласці 4-ох кілометраў ад Семятыч, раскінулася беларуская вёска Рогаўка. У мінулым Рогаўка была адной з самых рэвалюцыйных вёсак. Пад уплывам Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў канцы 1918 года ў гэтай вёсцы арганізавалася адна з першых на Беласточчыне сялянская рада. Праўда, існавала яна не доўга, таму што рэакцыі ўдалося яе хутка ліквідаваць. У 1920 годзе рэвалюцыянеры Рогаўкі зноў ствараюць сялянскую раду. Таленавітымі арганізатарамі — рэвалюцыянерамі ў першую чаргу былі: Сцяпан Кісель (ужо не жыве), Ёзік Далінскі, Міхась Грыневіч, Міхась Альшэўскі, Хведар Кісель і інш.

Пасля вызвалення жыхары Рогаўкі таксама актыўна падтрымлівалі маладую народную ўладу. Вось таму над імі часта здзекваліся бандыты — ворагі народнай улады. Шмат жыхароў Рогаўкі, а, між іншым, старшыня Прэзідыума ГРН у Крупіцах, Уладзімір Чапко, за народную ўладу змагаліся на шматлікіх франтах.

## Новым кепска пакіравалі

Пасля вызвалення пачало ўваходзіць у Рогаўку новае жыццё. Тут адным з першых у павеце арганізаваўся сельгаскааператыў. У драўлянай і саламянай вёсцы пачалі будавацца цагляныя дамы. Першым будынкам быў прыгожы і даволі вялікі кароўнік. Сталі будаваць цагляныя хаты і некаторыя члены кааператыва. Але новай калектыўнай гаспадаркай кепска кіравалі. Некалькі хітруноў і камбінатараў сталі ашукваць сялян. Яны пасеялі нязгоду, незадаваленне новым. Гэта давяло да таго, што пасля кааператыў распаўся.

## Як жыхары Рогаўкі праводзяць вольны час

У Рогаўцы з'яўляюцца традыцыйнымі «рэкруцкія» забавы. Калі хто з моладзі адыходзіць у армію, дык у прадапошні дзень хлопцы наймаюць хату і арганізуюць развітальную вечарынку. Будучы салдат у гэты вечар з'яўляецца самым паважаным, самым галоўным чалавекам. Калі хто — небудзь прыходзіць з войска ў водпуск, дык зноў арганізуецца падобная забава — вечарынка.

Вось нядаўна прыйшоў у водпуск на тры дні Яўген Эканамюк. Ён збіраўся ад'ехаць у нядзелю, таму ў яго чэсць у суботу адбылася вечарынка, спалучаная з танцамі.

Трэба падкрэсліць, што моладзь у Рогаўцы адпачывае і весяліцца вельмі культурна, няма там ніколі ні сварак, ні бойкі. Бяда толькі, што няма дзе моладзі збірацца, няма дзе культурна пагуляць. Вось таму вечарамі і ў дзень у нядзелю хлопцы і дзяўчаты збіраюцца на вуліцы, а найбольш каля Селянюка. А некаторыя дзяўчаты выносяць табурэткі, ці лаўкі на панадворак, садзяцца чарадою, вядома, зараз-жа каля іх кружаць хлопцы.

## Гэтыя справы хвалююць Рогаўцаў

У гэтай вёсцы ёсць сямікласная школа. Жыхары яе хацелі-б, каб іх дзеці вывучалі побач з іншымі прадметамі таксама і сваю родную мову. Неабходнай з'яўляецца таксама пабудова клуба, каб моладзь мела дзе збірацца і культурна праводзіць час. Пажаданым было-б, каб грамадская рада прымусіла Міхася Чапко лепш гаспадарыць і давесці да парадку сваю дзіравую хату. Ён мае ўсе магчымасці зрабіць гэта. Не хапае яму толькі ахвоты і гаспадарскай рухлівасці.

Усе жыхары Рогаўкі жадаюць таксама, каб дарожны аддзел у Семятычах як найхутчэй зацікавіўся дарогай у Семятычы і каб у нізіне ў час дажджоў не «тапіліся» людзі ў балоце.

М. Х.

---

Піша Дзямян Казлоўскі

## БУДУЮ ДОМ

*Я з'яўляюся сталым чытачом «Нівы». Звяртаюся да Цябе з вялікім запытаннем. Ці можаце даць мне, Дзямяну Казлоўскаму, параду, як будаваць жужлёва - вапнёвы сельскагаспадарчы дом? Я ўжо зрабіў фундамент, цяпер трэба рабіць сцены. У нас у цэлай аколіцы такіх дамоў не будавалі. Таму добра не ведаю, якую частку даваць жужалю, вапны і цэменту. Цэмент цяжка дастаць.*

*Дарагая рэдакцыя «Нівы»! Парайце мне.*

*ДЗЯМЯН КАЗЛОЎСКІ*
*Навіны*

Паважаны чытач! Добра зрабілі, што перш, чым пачаць будову, звярнуліся за фаховай парадай.

Найлепш будаваць з так званага, грануляванага жужалю, які можна набыць у ПЗГС — «Самапомач Хлопска» ў Гайнаўцы. У ім няма шкодных здароўю дамешак. У гэтым выпадку цяжка даць Вам якую-небудзь норму на працэнтавы склад жужалю і цэменту, бо не ведаем, якая якасць Вашага жужалю. Агульна, да сухога жужалю даецца адна пятая частка цэменту. Калі жужаль негрануляваны, тады трэба яшчэ дадаць вапны, якая знішчае ў ім шкодныя дамешкі (перш за ўсё — рэшткі серкі).

Някепскі і кацёльны жужаль — тым больш, што ў ім няма шкодных дамешак. Можна яго купіць у паравозных дэпо чыгуначных станцый. Продаж такога жужалю вядзе чыгуначная станцыя ў Чаромсе.

Будаваць з жужалю найлепш у вясенне-летнія месяцы. Тады такі будынак будзе сухім і цёплым. Жужаль павінен быць сухім.

Перш чым пачнеце будаваць, раім абавязкова звярнуцца ў Аддзел будаўніцтва Павятовай Рады ў Гайнаўцы і папрасіць спецыяліста, каб прыехаў і дапамог Вам у вырабе будаўнічага матэрыялу (цэгла, пустакі). Вас гэта нічога не будзе каштаваць, а фаховую дапамогу трэба скарыстаць. Спецыяліст, разгледзеўшы на месцы Вашыя матэрыялы (жужаль), скажа Вам дакладныя нормы складу жужалю і цэменту. Паглядзіць, ці не трэба будзе дадаваць яшчэ і вапны.

Калі Вам не дапаможа гэты спецыяліст, дык тады лепш прыехаць у Беласток, узяўшы з сабою крыху свайго жужалю і зайсці ў бюро сельскагаспадарчага будаўніцтва за парадай.

Вось яго адрас:

Wojewódzki Zarząd Przemysłu Terenowego Materiałów Budowlanych, Białystok, ul. Mickiewicza 5 (parter) Biuro poradnictwa budowlanego.

(ся)

---

## Залатыя рукі



Калі ўвойдзеш у хату Янюкоў у Дубічах Асочных, Гайнаўскага павета, станеш як зачараваны, сапраўды, ёсць чым захапляцца. На сценах прыгожыя вышываныя парчы, ручнікі, на ложках карункавыя пакрывалы, горы падушак з карункамі. Усё гэта вычароўвае сваімі залатымі рукамі 17-гадовая Валя. Калі навучылася яна гэтаму майстэрству — не ведае. Валя з дзіцячых гадоў кожную вольную хвіліну праводзіла з ключкай ці іголкай у руках— вязала карункі, вышывала розныя цуды.

Адкуль бяруцца ў яе гэтыя цудоўныя ўзоры? Што сама прыдумае, што ад знаёмых перайме...

У хаце Валі такая чысціня, якую рэдка дзе сустрэнеш у вясковай хаце. Будзе камусьці добрая жонка і гаспадыня.

НА ЗДЫМКУ: Валя Янюк паказвае вынікі сваёй працы.

Тэкст і фота А. А.

---

Адказы на пытанні чытачоў

## Дзе купіць, прадаць і колькі каштуе

*Дзе можна прадаць макавенне і колькі за кілограм плацяць?*

Макавенне купляюць, Грамадскія кааператывы — ГС і плацяць па 3 зл. за 1 кілограм.

*

*Дзе купіць камень да шрутоўніка?*

Камені да шрутоўнікаў вырабляе: Warszawska Fabryka Maszyn Młyńskich, ul. Karola Wojcika 11.

Цана ад 600 да 1.500 зл. (у залежнасці ад велічыні).

*

*Колькі каштуе сеўнік і дзе яго купіць?*

Сеўнікі можна выпісаць у ГС-е. Цана 11-радковага сеўніка 3.250 зл.

*

*Дзе купіць малацілку і колькі каштуе?*

Малацілка - шырокамалотка, конная, каштуе 7.000 зл. Купіць або заказаць можна ў кожным ГС і ПЗГС.

*

*Дзе купіць парашок пад назвай «Mączka mięsno - kostna» і колькі ён каштуе?*

Гэтую муку для адкармлівання свіней і курыц можна выпісаць: Żagańskie Zakłady Przemysłu Terenowego w Żaganiu, ul. Strzelecka 21. Цана 4 зл. за 1 кг. з перасылкай. Высылаецца не менш як 50 кілограмаў у мяшку.

---

Б. Нікіцюк

# Людзі з КПЗБ

(Глядзі пачатак у 20 №)

З гэтага сходу ўсе вышлі больш свядомымі, энергічнымі, падбадзёраныя да барацьбы з буржуазіяй.

Хутка ў Новасадах паўстаюць дзве далейшыя ячэйкі. У адну з іх, дзе сакратаром быў Рыгор Саевіч, уваходзілі Пятро Нікіфарук, Аляксандр Тамашэўскі, Балеслаў Лапінскі, Васіль Дарафенюк. У другую: Ціхон Шварц, Клімент Баўтрамюк, Янка Янчук, Клімент Трашчотка, Якуб Трашчотка. У 1925 — 31 гадах сакратаром райкома КПЗБ у Гайнаўцы быў Аляксей Трашчотка з Новасадаў. Інструктарамі райкома працавалі, між іншым, Янка Вярэмюк і Марыя Галёнка з Дубін.

### Таварыш з Акруговага камітэта

Сям'я Баўтрамюка ўся была дома — абедалі. Раптам нехта застукаў у дзверы.

— Калі ласка — клікнуў Баўтрамюк. Адчыніліся дзверы, у хату ўвайшла невялічкая, спраўная, маладая, па-вясковаму апранутая жанчына.

— Добры дзень, хачу размаўляць з Баўтрамюком.

— Гэта, я, сам, — адказаў Баўтрамюк і яны вышлі ў асобны пакой.

— Ці можна купіць у вас пяць бяроз? — прамовіла.

Баўтрамюк стаяў нерухома. Пацісnуў плячыма і разлажыў рукі.

— Нічога не ведаю.

Жанчына пабялела. Баўтрамюк таксама заблытаўся. Хвіліну маўчалі.

— Ці ў вас ёсць такія, што не любяць паноў? — пачала жанчына. Баўтрамюк зрабіў выгляд як-бы ні чым не бывала. Жанчына станоўча намагалася наладзіць размову.

— А Сашка жыве ў вашай вёсцы?

Баўтрамюк схамянуўся, гэта-ж Аляксея Трашчотку ў Акруговым камітэце Сашкай называюць. Запрасіў жанчыну сесці, а сам хутчэй пабег па Аляксея. Калі сустрэліся, аказалася, што Аляксей забыў падаць Баўтрамюку пароль. Такім чынам, выяснілася ўся справа.

Ноччу, у полі пад грушай адбыўся партыйны сход. Найперш жанчына — прадстаўнік з Акруговага камітэта зрабіла крытыку за слабую канспірацыйную дзейнасць.

— Нельга абыякава ставіцца да правіл нелегальнай працы, — гаварыла яна, — партыя будзе рабіць з гэтага суровыя вывады... Перасцярогі аказаліся слушнымі. Іменна ў выніку слабой канспірацыі пазней «Дэфа» расшыфравала КПЗБ-оўскія ячэйкі ў Новасадах.

### Распаўсюджванне лістовак

Падпольны склад з лістоўкамі, прызначанымі на Гайнаўскі павет, знаходзіўся, між іншым, і ў Дубінах, у Марыі Галёнка і Янкі Вярэмюка. Адтуль яны былі распаўсюджваны паміж сялян. Адным — больш давераным, КПЗБ-оўцы аддавалі іх проста ў рукі, іншым кідалі на панадворкі, у сені. У Ласінцы перад фэстам, на які з'язджаліся сотні людзей, Баўтрамюк раскінуў больш, чым 5 кілограмаў, нелегальнай бібулы. Таксама распаўсюджваў лістоўкі ў Нарве і іншых мясцовасцях.

Перад святам працоўных — 1 Мая — Рыгор Саевіч разносіў адозвы і лістоўкі па вёсках. Амаль перад кожным святам таварышы займаліся распаўсюджваннем адозваў і лістовак. Аднойчы вечарам КПЗБ-овец Балеслаў Лапінскі раскідаў лістоўкі ў лесе. Раскінуўшы, у вясёлым настроі вяртаўся дахаты.

— Назаўтра рабочыя шмат праўды пачуюць, — падумаў. І толькі ўвайшоў у вёску, як раптам затрымала яго паліцыя:

— Стой! — Адкуль ідзеш?

Лапінскі затрымаўся. Два паліцаі падскочылі і пачалі рабіць рэвізію. І вось, у кішэню Лапінскага знайшлі лістоўку. Лапінскі раскідаючы не паглядзеў у кішэнях, ці ўсе выкінуў. Паліцыя арыштавала яго. Апраўдваўся вельмі наіўна, але добра:

— Ідучы дарогай, я знайшоў гэтую паперку, але не мог прачытаць, бо па-руску на ёй напісана. Некалькі дзён прасядзеў у арышце — паліцыя біла, страшыла, нарэшце адпусціла дахаты. Нейкі час Лапінскі быў пад наглядам паліцыі, быў вымушаны штодзень з'яўляцца да каменданта.

Вялікае ўражанне зрабіў на рабочых і сялян навакольных вёсак вялікі транспарант, павешаны Аляксеем Трашчоткам і Рыгорам Саевічам на шашы каля Гайнаўкі. На транспаранце было выразна напісана: «Прэч фашызм. Свабоды, хлеба, працы». Транспарант быў замініраваны. Калі паліцыя



 

 

## Усякая усячына

### Трапіў у адпаведнае месца

Цікавая прыгода здарылася з Шарлам Брагдонам з Ліверпуля ў Англіі. Ён, выпіўшы праз меру, не ведаў, дзе падзеўся яго дом, і замест ў ложак у сваім памяшканні трапіў у скрынку, у якую выкідаліся кухонныя адпадкі.

Уклаўшыся выгодна, ён соладка заснуў.

Ноччу людзі не заўважыўшы, закідалі яго кухоннымі адпадкамі. Рана грузчыкі са скрынкай пагрузілі яго на грузавік. Прачнуўся ён толькі на канвееры ў фабрыцы перапрацоўкі адпадкаў.

### Спаборніцтвы ў прадсказванні пагоды

Начны сторож з Кліморпу (Англія) Гарры Бул праславіўся прадсказваннем пагоды. Каб даведацца, якая будзе пагода, да яго звяртаюцца нават з далейшых мясцовасцей, а на ратушы ў Кліморпе штодзень вывешваецца да публічнага ведама зводка аб пагодзе.

Брытанскае радыёвае таварыства БіБіСі, якое штодзень падае зводку аб пагодзе на аснове прагнозу метэаралагічных інстытутаў, вызвала Була на спаборніцтва. Яно вызначыла грашовую ўзнагароду, якую атрымае Бул, калі да канца верасня гэтага года ён зробіць менш памылак, чым БіБіСі.

Бул прадсказвае пагоду на аснове паводзін птушак, насякомых, паводле хмар і ветру, але ведаў сваіх ён нікому не адкрывае.

САВА




## Галубы і галубцы

*Кожны чытач згодзіцца з тым, што голуб — птушка мілая. Многія гадуюць галубоў для ўласнага задавальнення: хто ў галубятніку, а хто проста на гары абсталюе месца для іх. Як сонейка прыгрэе, галубы буркочуць, галоўкамі ківаюць, такім чынам замілаванне ў чалавека выклікаюць. Калі да высокага шаста прывязаць анучу і ўзмахнуць гэтым шастом, то галубы ўзрываюцца, лётаюць коламі над галубятнікам, толькі посвіст з крылаў разыходзіцца.*

*Некаторыя грамадзяне любяць печаных галубоў. Такія людзі — празаікі, у галубінай паэзіі не разбіраюцца і думкі іх да вышынь не ўзлятаюць, як статка галубоў, паблісквауючых сярэбранымі крыламі ў сонечных праменнях.*

*Цяпер у кожнай вёсцы вечарамі, калі ўжо галубы спяць, спатыкаюцца пары і буркочуць з сабою ў якім-небудзь зацішным кутку, як галубы, а цёплая, водарная ноч робіць сваё. У кожнай бярозцы у кожным кусце язміну сок бяжыць ад карэння да галінак, як кроў у закаханых. Срэбраны месяц, хітравата прыжмурыўшыся, глядзіць на ўсё гэта, да яго не даходзяць гарачыя зямныя пачуцці.*

*Сярод нас знаходзяцца і такія людзі, якія захапляюцца не галубамі, а галубцамі.*

*Галубоў лёгка купіць, але галубцоў знайсці — дарэмныя заходы. Раз на год падсылаюць нам іх братцы — балгары, але праз дзень яны знікаюць з нашых крамаў. Наша прамысловасць не выробляе галубцоў, таму што ў нас капусты ўсё яшчэ не хапае, а з капусных галоў некаторых адказных начальнікаў галубцоў не зробіш.*

*Перашкодай у вырабе галубцоў з'яўляецца ўстанаўленне цаны на іх. Калі, напрыклад, зробяць бочку галубцоў, то яна будзе каштаваць, прыблізна, толькі, што стая галубоў, а людзям гэта не па кішэні.*

*Як бачыце, дарагія чытачы, з галубінай паэзіяй у нас лепш справа маецца, чым са звычайнымі, празаічнымі галубцамі. А ўсё гэта таму, што летуценнікаў у нас многа, а практычных людзей значна менш.*

Дзядзька Лявонь.

### На арыфметыцы

Настаўніца: «На сенажаці пасвілася 20 авечак. 8 з іх уцякло. Скажыце, дзеці, колькі авечак асталося на сенажаці?»

— Ніводнай — адказвае Янка.

— Як-то ніводнай — здзівілася настаўніца.

« Ніводнай — паўтарае Янка, пані настаўніца дрэнна ведае звычаі авечак, бо калі ўцякло 8, то за імі і ўсе іншыя паляцелі».

## Вясковыя жарты

### Памыліўся

Аднойчы, вялікі аматар выпіўкі, які пры кожнай аказіі не адмаўляўся ад кілішка, прыйшоў да суседа на пахаванне. Пасля пахавання папрасілі яго на абед. Калі налілі гарэлкі ў кілішкі, аматар не чакаючы доўга, схапіў за свой і па старай прывычцы прагаварыў:

— Дай Бог, каб на другі год дачакалі! (вб)

### Можа і так

— Я адурэю, калі Ніна не захоча быць маёю жонкаю.

— А па-мойму, ты адурэеш, калі ажэнішся з ёю.

### Ляпей адразу

— Што вы думаеце рабіць са сваім сынам?

— Думаю аддаць яго на службу ў міліцыю.

— Чаму?

— Ён-жа ўсёроўна туды пападзе.

### Простая прычына

— Чаму ты падбіраеш на вуліцы недакуркі і курыш іх?

— Таму, што ніхто не кідае цэлых папяросаў.

(дм)

## Маці зяця выбірае

Хлопцы ў нядзелю,
Ці ў якоесь свята
Зробяць па паўлітра
Ды йдуць да дзяўчатаў.

А ўрэшце дзяўчаты
Хлопцаў намаўляюць,
Зрабіці забаву —
І тады гуляюць.

На гэту забаву
Выбралася маці.
З кім-жа яе дочка
Будзе танцаваці?

Паглядзела зкоса,
Як сава на шпака:
Дочанька прыгожа,
А ён як пакрака.

Хлопец ён, як хлопец,
Час, як ўсе, праводзіць.
Чаго-ж гэта цёшча
Вачэй з іх не зводзіць.

Доўга прыглядалась
І вось не сцярпела,
Да гэтага хлопца
Яна падляцела.

— То табе не пара,
З маёю дачкою,
Чаго прычапіўся?
Ну! гуляй з другою!

Аставіў дзяўчыну,
А сам засмяяўся:
Чаго-ж то я цёшчы
Так не спадабаўся?

Да мяне, што маеш?
Хлопцаў ёсць тут многа,
Я не падабаюсь —
Выбірай другога.

(аб)

## Як свіння ільва перамагла

У цёмным лесе, на паляне, ў падножжа Зялёнай Гары сабраліся звяры на чарговы сход. Леў гэтым разам на сход не з'явіўся і, выкарыстаўшы гэта, свіння, вядомая сярод звяроў сваім красамоўствам і ахвотай да публічных выступленняў (пагэтаму яна і была сярод звяроў за пракурора), выступіла з прамовай, якая здзівіла ўсіх звяроў.

Мераючы вартасць кожнага паводле кілограмаў загадаванага ім сала, яна пачала мяшаць з балотам усіх па віду катоў, а асабліва ільва, не пакідаючы на ім сухога валаска.

— Ці-ж не ад яго ўзнікла ўсялякае зло? — смакуючы словы, як цукеркі, выкрыквала свіння.

Ці-ж не ён прапаведваў культ адзінкі? Калі заяц крыху буяніў, ён крыкнуў на яго так, што той са страху расхварэўся, — працягвала свіння. — Ён цяжка пакараў ваўка толькі за тое, што той па-п'янаму здзёр скуру з барана. Хай ліса скажа, колькі яна выцярпела толькі праз тое, што не маючы вопраткі, пазычыла сабе з дзяржаўнай касы, якою яна загадвала, поўмільёна злотых. Дый калі я сёння ёсць свіння, дык гэта толькі праз ільва, — штораз больш разыходзілася свіння, хаця на небе не было ані воднага воблачка і нішто не паказвала на дождж.

Некаторыя звяры аж параззяўляліся ад здзіўлення, чуючы гэткую дзёрзкую прамову і, каб не цікавасць, а яшчэ больш — страх, каб не падпасці пад гнеў свінні, якая — хто ведае, як далёка можа зайсці, ахвотна вымкнуліся-б са сходу.

— Далоў ільва!, — гаўкнуў цюцька, які з казлом лічыліся сярод звяроў адвакатамі. Цюцька выдаваў сябе за вялікага грамадскага дзеяча і быў палымяным прыхільнікам ільва, пакуль не падкупіла яго свіння, пазваляючы яму збіраць з зямлі тое, што яна лычом вывярнула з карыта.

Цюцька гатоў брахаць на кожнага і кусаць кожнага, калі яму было за гэта заплачана.

А казёл моўчкі патрасаў барадой, заахвочваючы гэтым свінню.

Многія звяры злараднічалі, што гэткі аўтарытэт, як леў, быў публічна атакаваны. Большасць не згаджалася са свіннёй, аднак маўчала. Толькі слон не вытрымаў і коратка заўва-

(Працяг на стар. 6).

## Філасофская крама „Мудрагарпаліца"

(Купляем і прадаем бясплатна))

Быў чалавек, які пражыў усё сваё жыццё ў гарах і ніколі не бачыў фруктовага саду.

Спусціўся ён неяк у даліну. Угледзеў сад і ўвайшоў. Паглядзеў на ўсялякія фрукты і гароднíну. Вельмі яму ўсё спадабалася, ён аддаў хвалу Госпаду і сказаў:

— Усё Ты добра наладзіў, адно толькі кепска: дыню Ты прымацаваў да тоненькай сцяблінкі, арэхі-ж павесіў да вялікага дрэва.

Пахадзіў ён па саду і, нарэшце, заснуў пад арэхавым дрэвам. Прыляцела варона, села на дрэва і скінула арэх. Арэх упаў яму проста на лоб і набіў яму гуз. Чалавек схапіўся і сказаў:

— О Госпадзі, Ты рассудзіў больш мудра: калі-б на дрэве вісеў большы плод, ён разваліў-бы мне галаву.

*

З чым можна параўнаць жанчыну, у якой няма мужа? — спыталі аднаго мудраца.

— З бязводнай ракой, — адказаў ён.

## АДГАДАНКА



На гэтым малюнку напісана беларуская народная прыказка.

Сярод чытачоў, якія да 20 чэрвеня г. г. прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будзе разлясавана 10 кніжных ўзнагарод.

### Развязка адгаданкі

з № 15 «НІВЫ»

Развязка: Янка Купала, Кандрат Крапіва, Францішак Багушэвіч, Якуб Колас, Максім Танк, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны, Аркадзь Куляшоў, Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Змітрок Бядуля.

Кніжныя ўзнагароды вылясавалі: Ян Хадакоўскі, Урсус, каля Варшавы; Шымон Лапінскі, Стрыкі; Мікола Сычэўскі, Шчэцін; Ірэна Мазалеўская, Хілімоны; Аўгіня Грэсь, Беласток; Марыя Паўлючук, Белкі; Ліда Садоўская, Губін; Ніна Калішук, Махнатэ; Алеся Хомко, Малешы.

Узнагароды высылаем поштай.

 